№ I (9) Травень 1989.



# ХРЫСЬЦІЯНСКІЯ НАВІНЫ



RADIO VATICANA
Ufficio Propaganda
00120 CITTÀ DEL VATICANO

## БЕЛАРУСКІ ІНФАРМАТАР

адказны за бюлетэнь
Янка Мойсік

### АПУБЛІКАВАНЬНЕ НОВАГА ПАПСКАГА ШТОГОДНІКА: "АННУАРЫЁ ПОНТЫФІЧЫЁ" НА 1989г.

У суботу I5 красавіка Сьвяцейшы Айцец пазнаёміўся з новым выданьнем папскага штогодніка "Аннуарыё Понтыфічыё" на 1989г. У гэтым годзе "Аннуарыё Понтыфічыё" выдана з невялікім спазьненьнем, а то дзеля таго, каб узяць пад увагу зьмены ўведзеныя ў Рымскай Курыі Апостальскаю Канстытуцыяю "Пастор Бонус".

З дадзеных прадстаўленых у "Аннуарыё" вынікае, што Кардынальскае Калегіюм налічвае цяпер I54 членаў, з якіх 24 было назначаных у 1988 годзе.
28 лютага бягучага году Каталіцкая Царква мела амаль 4 тысячы біскупаў. Існавала амаль дзьве з палавінаю тысяч біскупскіх сталіц, з чаго 2I паўстала летась. У тым самым часе Папа назначыў I80 біскупаў. Сьвятарскіх рукапалажэньняў было па-над 7 тысяч, з якіх дзьве тысячы гэта законныя сьвятары. Гэта паказвае ў параўнаньні з мінулым годам узрост лічбы сьвятарскіх рукапалажэньняў а па-над 7,5 працэнтаў.

Клерыкаў у мінулым годзе было па-над 90 тысяч, з якіх адна трэцяя-законныя. Становіць гэта ўзрост а па-над 3 працэнты.
Сталых дыяканаў было па-над I4 з палавінаю тысяч, з чаго амаль 400 законных. Становіць гэта ўзрост амаль а I7 працэнтаў.

У 1988 годзе Апостальская Сталіца наладзіла дыпламатычныя зносіны з Рэспублікаю Чаду.

Частка 3.

Новы сьвятар перш быў назначаны ў Любяшоў, адкуль што суботы і нядзелі даяжджаў у Угрынічы. У Любяшове вялі душпасырскую працу айцы Капуцыны ўсходняга абраду. Угрыніцкую Царкву палякі зачынілі, а багаслужбы адпраўляліся ў капліцы скрытых законніцаў. Пасьля аднак і тую капліцу апячаталі палякі разам са сьвятымі дарамі.

З Любяшова айцец Леў быў перанесены Біскупам Букрабай ў Гародна на месца айца Шымкевіча. Тут таксама былі страшныя цяжкасьці з боку палякаў для сьвятарскае працы. Сам ваявода Костэк-Бернацкі перaадзеты за паляшука прыяжджаў, каб сьлядзіць. Назначаліся розныя прыдзірлівыя кары, прыкладам за непабеляны плот, за недахоп драбіны ітд. Ня гледзячы на прывязанасьць добрых людзей да свайго параха, айцец Леў быў вымушаны прасіць царкоўныя ўлады, каб яго перавялі ў іншае месца. Тады ён быў назначаны ў Стоўпцы на памочніка айцу Селецкаму, ўкраінцу. Тут аставаўся да дня 15 траўня 1939 г., калі загадам наваградзкага ваяводы быў выселяны на заўсёды з гэтак званай пагранічнай паласы. Гэтак мсьціліся палякі за беларускую душпастырскую дзейнасьць. Айца Гарошку, будучага Марыяніна, спаткаў падобны лёс як і ўсіх Марыянаў беларусаў у Друі, якіх віленскі ваявода Бацянскі высяліў з друйскай парафіі і гімназіі.

Айцец Гарошка не маючы зьнікуль абароны пераехаў у Збураж каля Маларыты і тут аставаўся да выбуху вайны.
Пад-час бальшавіцкай акупацыі апрача душпастырскай працы, якая станавілася штораз больш цяжкай і блізу немагчымай, айцец Леў займаецца лячэньнем сялян. Пасьля пераяжджае ў Баранавічы і тут, пакуль бальшавікі не забаранілі, выкладае беларускую мову ў гандлёвай школе, а для медыцынскіх сёстраў беларускую і лацінскую. Пазбаўлены ўсялякай працы ўваходзіць у зносіны з нованазначаным Экзархам Беларусі айцом Немнцэвічам, едзе з ім у Львоў на зьезд Экзархаў, зарганізаваны Мітрапалітам Шэптыцкім. Хутка выбухае нямецка-бальшавіцкая вайна (22 VI 1940) і тады пераяжджае зноў у Баранавічы, дзе працуе як запраўдны леў у медыцынскай школе, ў настаўніцкіх, матуральных курсах, пры рэдагаваньні газэт, у розных беларускіх арганізацыях. Будучы адважным з натуры, няраз наражаўся немцам-акупантам і толькі дзякуючы Божаму правіду выйшаў жывы з гэтай куламесы.

У чэрвені 1944г. разам з іншымі дзеячамі прыймае ўдзел у кангрэсе ў Менску, скліканым БЦР. Міма цьвёрдага дамаганьня, не атрымаў магчымасьці гаварыць. Хутка пасьля разам з хваляй эміграцыі трапляе ў Бэрлін, дзе адразу складае заяву ў Міністэрства Рэлігійных Справаў, каб далі яму права душпастырства сярод беларусаў-каталікаў у Нямеччыне, і не чакаючы яго атрыманьня, арганізуе беларускія Багаслужбы, ў чым дапамагалі Равенскі, Іёвец і іншыя.

З Бэрліна неўзабаве пераехаў айцец Гарошка ў Мюнхэн і тут дачакаўшы прыходу амэрыканскіх войскаў, пачаў арганізаваць беларускае душпастырства і Беларускі Камітэт. II верасьня 1945г., выставіўшы сам сабе дакуманты, разам

з італьянскімі палоннымі, якіх вязла напская камісія, прыяжджае ў Рым. Тут астаецца да 24 кастрычніка 1946г. Усюды, дзе толькі можа і як можа, інфармуе ватыканскія дзейнікі пра Беларусь і рэлігійныя там адносіны, выдае друкам малітоўнік "Божым Шляхам", арганізуе Камітэт і разам з айцом Чаславам Сіповічам вышуквае беларусаў-уцекачоў у Італіі, навязвае зносіны з жаўнерамі-беларусамі, якія знайшліся ў арміі генерала Андэрса, дапамагае ім кантактавацца з сабой і арганізавацца. Падпісвае мэмарыялы да генерала Андэрса ў справе арганізацыі беларускіх частак і беларускага школьніцтва ў яго арміі.

У канцы кастрычніка 1946г. назначаецца рэктарам Беларускай Каталіцкай Місіі ў Францыі; куды і выяжджае. Пачынаецца новы, працавіты, вельмі інтэнсыўны пэрыяд у жыцьці айца Льва. (працяг будзе)

---

## ХРОНІКА

(красавік)

### I. ДЗЕЙНАСЬЦЬ СЬВЯЦЕЙШАГА АЙЦА

У красавіку Ян Павал II меў кожнае серады тыдня сваю агульную аўдыенцыю на Плошчы Сьвятога Пятра. Вось тэмы яго разважаньняў:

5 04 "Ушэсьце: абвешчана таямніца".
12 04 "Ушэсьце: ажыцьцёўленая таямніца".
19 04 "Плады Ушэсьця: прызнаньне, што Ісус ёсьць Госпадам".
26 04 Пачаў новую катэхізу прысьвечану Сьвятому Духу ды распачаў яе разважаньнем- "Веру ў Сьвятога Духа".

Кожнай нядзелі месяца красавіка Яго сьвятасьць адгаворваў разам з вернымі Багародзічную малітву "Каралева Неба", якую заўсёды папярэджваў прамовамі. Вось пра што гаварыў Папа:

2 04 Раздумваў над Сьвятым Духам, які ёсьць дарам і абьяўленьнем збаўчай сілы Уваскросшага Хрыста.
9 04 Раздумваў над дарам Сьвятога Духа якім ёсьць мудрасьць.
16 04 Раздумваў на тэму дару Сьвятога Духа якім ёсьць Дар Розуму.
23 04 Раздумваў над чарговым дарам Сьвятога Духа: гэтым разам над дарам Веды

У нядзелю 2 красавіка, пасьля абеду, Папа адведаў рымскі "Воінскі Гарнізон" у квартале гораду Чэкіньёла.
У нядзелю 9 красавіка абвясьціў сьвятою італьянку Клелію Барберы. Пасьля абеду таго ж самага дня наведаў рымскую парафію Сьвятога Духа, ў аддзеле гораду Фэррантэльля.
У нядзелю 16 красавіка перад адгаварэньнем малітвы "Каралева Неба" выказаў сваю гарачую салідарнасьць з ліванскім народам.
У нядзелю 23 красавіка Яго Сьвятасьць абвясьціў блаславёнымі пяцёх Божых слугаў: двух гішпанцаў, Польку, Францускую і Італьянку,
25 красавіка Папа зрабіў паўторны заклік за мір у Ліване.
28 красавіка распачаў сваё Апостальскае падарожжа ў Афрыку.

II. ГУТАРКІ И ВЕСТКІ

У красавіку мы адзначылі наступныя гадавіны:
- 80 гадавіну з дня нараджэньня Міколы Хведаровіча
- 50 ўгодкі сьмерці Старога Уласа.
- 95 юбілей нараджэньня Альфонса Петрашкевіча.
- 75 годдзе з дня нараджэньня Ганны Новік.

Важнейшыя гутаркі и паведамленьні:
- Агульны малітоўны намер Сьвяцейшага Айца на месяц травень: Каб моладзь паводле прыкладу Усячыстае Дзевы Марыі дабрадушна адказала на Божы заклік пакліканьня з місыйным духам веры.
- Царква ў Кубе перад новымі заданьнямі.
- Мадзярскае радыё передало 2 красавіка пасланьне да народу былўшыга мадзярскага кардынала-прымаса Язэпа Міндзэнты, якое ён сказаў перад савецкім нападам 3 красавіка 1956г.
- Амнэсты Інтэрнэйшэнал аб пашане правоў чалавека ў Савецкім Саюзе
- Аб візіце кардынала Люстыжэ (арцыбіскупа Парыжа) ў Чэха-Славаччыне.
- 18 красавіка ў Ватыкане адбылося адкрыцьцё Трэцяга Міжнароднага Кангрэсу на тэму каталіцкай вышэйшай адукацыі.
- Аб падрыхтоўках да Пятага Апостальскага Падарожжа Папы ў Афрыку- Малагасійская Рэспубліка, востраў Рэюньён, Замбія і Малявi.
- Дзень малітваў за пакліканьня.
- Аб спатканьні моладзі з Эўропы ў Пэч (Мадзяршчына 28-30 красавік)
- Візіт Валесы ў Рыме.

---

### ІНТЭРВ'Ю З МАЛАДЫМ БЕЛАРУСАМ З МЕНСКА!

I) Аляксандар, Ты выехаў з Беларусі дзесьці з паў году таму назад. Як за Тваіх часоў пераходзіла перабудова?

-- Перабудова для беларусаў гэта перш за ўсё аднаўленьне ўсяго нацыянальнага. Перш за ўсё таго, што было згублена за часоў Сталіншчыны-Брэжнеўшчыны.

Кожны беларус у цяперашні час успамінае, што ён <u>Беларус</u> ды перад <u>усім</u> Беларус. I на пытаньне, якая яго родная мова ён адказвае, што беларуская а не руская. Кожны беларус рвецца да роднай гісторыі свайго краю і яго культуры.

Беларусы з часам успомнілі, што культуру трэба пачаць ад мовы і пачалі патрабаваць беларускіх школ, у якіх беларуская мова не будзе гірамі на нагах вывучэнцаў, а стане адзінаю моваю для пазнаньня ўсіх навук і ўсяго жыцьця. Пачаліся выдавацца беларускія слоўнікі. Гэта значыць, што беларусы павінны чакаць перакладаў з ангельскай і іншых моваў на родную беларускую а не на рускую мову. Цяпер, калі нядаўна пераходзіў усесаюзны перапіс насельніцтва, то ўсё больш і больш жыхароў Беларусі адказвала, што яго родная мова- гэта беларуская мова. Усё больш і больш кандыдатаў на вышэйшыя навучальныя ўстановы (а менавіта на Менскі Беларускі Унівэрсытэт) здае ўступныя экзамены на беларускай мове і хочацца, каб уся эдукацыя вялася на роднай мове, а з эду-

кацыяй пачынаецца ўсё жыцьцё, і хочацца верыць, што цяпер Беларусь не будзе жылаю для Расеі. Беларусы ўсё больш і больш хочуць чуць сябе гаспадарамі ў сваім доме. І нараджэньне "Талакі" і "Тутэйшых" найлепшы доказ гэтаму.

2) Але ж чытаючы "Літаратуру і Мастацтва", "Чырвоную Змену", "Маладосьць", чытач не заўважвае такога карэннага паляпшэньня ў нацыянальным жыцьці Беларусаў.

-- Так, гэта толькі першыя расткі новага жыцьця. І ніхто не ведае, якая вырасьце расьліна з гэтых расткоў. Але ж ведаеш, сам момэнт зьяўленьня ў "Л і М", "Чырвонай Змене" нейкіх крытычных артыкулаў ўжо гаворыць аб многім. Быў час, што за такія артыкулы людзей зьнішчалі і такіх думак нельга было ўявіць сабе.

3) Ці верыш у перабудову?

-- Гэта вельмі цяжкае і неадназначнае пытаньне. Таму, мой дарагі сябар-журналіст з Ватыканскага Радыё, не чакай лёгкіх адказаў. Перш за ўсё мушу сказаць, што перабудова гэта плюс а не мінус. Пытаньне ў тым, што гэтая перабудова ў сваей натуры не можа давесьці нас да лагічнага канца.

4) А чаму ж?

--Таму, што калі баліць галава, не трэба лячыць ногі.

5) А калі ж не баліць галава?

--Вельмі добрае пытаньне. Лёгкі адказ. Тады не павінна быць перабудовы.

6) Чуў, што на Беларусі наступае паварот да ўсяго беларускага. Ці гэта праўда? Хоць Ты ўжо аб гэтым крышку ўспамінаў.

-- Я хачу дадаць, што асабліва да беларускасьці. Напрыклад такая цікавасьць, як справа менскага мэтро, дзе да нядаўна прыпынкі мэтро абвяшчаліся на рускай мове, а цяпер усё больш і больш "зьяўляюцца" беларускія прыпынкі. Хочацца верыць, што ва ўсёй Беларусі будзе больш беларускіх прыпынкаў і машыністамі гэтых поездаў-перабудовы будуць Беларусы.

7) А ці часам гэты цягнік не затрымаецца?

--Ведаеш, калі ніхто не разбярэ рэйкаў і хопіць паліва і машыніст будзе зразумелы, то цягнік не трафіць на дрэнны напрамак.

8) Аляксандар! Усе сродкі масавай інфармацыі пісалі аб Курапатах і гэтая невялікая беларуская вёска стала ведамая ўсяму сьвету. Ты гаварыў мне, што Ты быў сьведкам гэтых падзей. Можа пагаворым крышку аб гэтым?

-- Мае сябры прымалі актыўны ўдзел у раскопках тых страшных магіл сталінскіх часоў. Але ж я, як удзельнік маніфэстацый ва ўспамін гэтых страшных ахвяр на сабе пачуў як цяперашняя, а не сталінская міліцыя НКВД, разганяла ўдзельнікаў дэманстрацый.

9) Пачакай, калі ласка, крышку драбязьней аб гэтым зьверскім разгоне.

--Уяўляеш сабе, сабраліся мірныя жыхары. Яны нічога не патрабавалі ад улад, акрамя сьвятой памяці ахвяр ушанаваньня сталінізму. Раптам зьявіліся "чорныя бэрэты"- спэцыяльныя атрады міліцыі з вадамётамі, шчытамі і дубінкамі ды акружылі ўсіх мірных жыхароў, удзельнікаў мітынгу. Сам гэты выгляд "чорнай формы" і вадамётных установак, надаваў вобраз садызму гітлераўцаў. І то гэта ў час перабудовы? Усё далейшае было адказам: жорсткасьць, абыякавасьць, бяздумнасьць- удары дубінак па галавах. Вось гэта добрая лекцыя галоснасьці.

10) А хто быў галоўным удзельнікам гэтых маніфэстацый?
-- У асноўным моладзь.
II) Гаворачы аб моладзі. Ці заўважваецца яе паварот да Царквы?
--Безумоўна так. Інтарэс да рэлігіі ўзрастае з кожным імгненьнем. Павялічваецца лік царкоўных шлюбаў. Усё больш і больш бацькі хрысьцяць сваіх дзяцей ў Царкве. І галоўнае, што ўлады даюць дазвол. У мінулым часе аб гэтым не можна было нават падумаць. Хочацца верыць, што прыйдзе час, калі беларускія сьвятары пачнуць гаварыць па-беларуску.
I2) А калі, Ты думаеш, настане гэты час?
--Гэта будзе час рэлігійнай перабудовы і першым прадвесьнікам гэтага ёсьць тое, што Філярэт Менскі і Мітрапаліт Беларусі ўжо пачаў вялікую справу перакладу Сьвятога Пісаньня на беларускую мову.
I3) А Ты веруючы?
--Ведаеш, Янка, ў Савецкім Саюзе прызнаецца толькі адна рэлігія-атэізм. Таму вельмі цяжка моладзі пачуць рэлігію. І толькі, калі я выйшаў з юнацтва, я крышку пачаў думаць аб Царкве, займацца рэлігіяю.
I4) І да чаго Ты дайшоў?
--Мушу сказаць, што калі я яшчэ неверуючы, но я перастаў быць атэістам. Павінен дадаць, што гэта абавязковая дарога для ўсёй моладзі.
I5) Ведаеш, нядаўна атрымаў пісьмо з Брэсту, дзе адзін Беларус піша мне, што яго і ягоную жонку пазбавілі працы толькі дзеля таго, што яны веруючыя. Як гэта разумець?
--Ведаю, такія здарэньні ёсьць і іх яшчэ не мала. Гэта пасьведчаньне таго, што перабудова не поўнасьцю пачала ажыцьцяўляцца. Але сьмела можна дадаць, што нешта зварушылася з мёртвага месца. Таму, як я гаварыў аб гэтым раней, ў мінулым часе гэты чалавек быў больш рэпрэсіраваны і тым больш баяўся б пісаць пісьмы за мяжу і то ў Каталіцкі Цэнтр.
I6) А якую ж ролю ў рэлігійным усьведамленьні адыгрывае Ватыканскае Радыё? Ці яно даходзіць да сэрца слухачоў?
--Так, у краіне дзе не ўсё проста з рэлігійнаю свабодаю, голас Ватыканскага Радыё ёсьць часта, безумоўна, адзіным шляхам да атрыманьня шматлікіх рэлігійных ведаў. І ў гэтым мы чуем вялікую духоўную падтрымку. Хацелася б пажадаць, каб Энцыклікі, якія выдае Папа, мы маглі пачуць на нашай роднай беларускай мове. Гэтае пажаданьне я перадаю ад імя многіх слухачоў беларускай праграмы Ватыканскага Радыё.
I7) Можа маеш іншыя жаданьні ад Ватыканскага Радыё?
--Часам хацелася б чуць больш рэлігійнай музыкі і больш вестак пра жыцьцё Беларусаў у іншых краінах.
I8) Чаго Табе жадаць ў далейшым Тваім жыцьці?
--Перш за ўсё добрага здароўя і Божых ласк, а затым добра ўстроіцца за Далёкім Акіянам!
Вельмі дзякую за размову.

# НА БЕЛАРУСІ ЗЬВЕРНУТА ВЕРНІКАМ КАТАЛІЦКУЮ ЦАРКВУ Ў ВЕЛЬМІ ДРЭННЫМ СТАНЕ!

Вернікі каталіцкай грамады Барысава навязалі кантакт з "Кэстон Колэдж", каб прадставіць праблемы аднаўленьня іх нядаўна зьвернутай Царквы. Парафіяне зрабілі фатаграфіі, якія цяпер знаходзяцца ва ўладаньні "Кэстан Колэдж", каб паказаць стан ў якім знаходзіцца Царква. У палове студзеня, бягучага году, зарэгістравана Барысаўскую парафію і зьвернута вернікам Царкву Нараджэньня Багародзіцы, сканфіскаваную ў 1920 годзе. Гэта ўжо другая Каталіцкая Царква, якую адкрыта для вернікаў ва Ўсходняй Беларусі. Першую адкрыта ў 1980 годзе: ідзе тут справа аб Менскай Царкве Уздзвіжэньня Крыжа Гасподняга.

Барысаўская Царква Нараджэньня Багародзіцы знаходзіцца ў вельмі дрэнным стане. Усе сьценныя ўпрыгожваньні зьнішчаны, а тое, што было магчыма забраць-перанесьці было ўкрадзена. Сярод мясцовага насельніцтва падкрэсьліваецца, што Царква павінна быць зьвернута ў такім стане, ў якім яна была, калі яе сканфіскавана. Тым часам мясцовыя ўлады не толькі адмаўляюцца даць сваю дапамогу ў правядзеньні рэстаўрыраваньня, яле яшчэ дамагаюцца ад парафіі 30 тысяч рублёў за тое, што іхнюю Царкву зьвернута. Падаткі і кошты рэстаўрыраваньня пераўвышаюць скромныя фінансавыя рэсурсы мясцовай грамады, таму і будучыня Барысаўскай Царквы астаецца няпэўнаю. Парафіяне заклікаюць заходніх турыстаў, каб яны пераязджаючы праз Барысаў, па дарозе ў Маскву, на ўласныя вочы пабачылі, ў якім жахлівым стане знаходзіцца Царква.

Кэстан Колэдж паведамляе, што ў Заходняй Беларусі нядаўна зарэгістравана іншыя тры парафіі, а менавіта ў Відзах, у Паставах і ў Гэрмановічах. Шмат іншых парафіяў чакае аднак на рэгістрацыю, як напрыклад у Івянцах, у Бабруйску, ў Вілейцы, ў Сьвіры і ў Удзеле. Вернікі Удзела апошнімі часамі дамагаліся ад мясцовых уладаў зьвернення Каталіцкай Царквы, але без посьпеху. Ва Удзеле затрымаўся летась, польскі біскуп Роман Енджэўскі, пад-час свайго падарожжа ў Беларусь, Літву і Цэнтральную Азію. Таму, што Царква далей ёсьць яшчэ выкарыстоўвана як магазін, Сьвятая Літургія адслужваецца на могілках. Пад-час візіту, які адбыўся 13-14 жніўня 1988 году (гэта быў першы візіт біскупа ад 50 гадоў) ва Удзеле вернікі маліліся на двары праз усю ноч, а біскуп спавядаў да позней ночы. Тысячы католікаў ўзяло ўдзел у Сьвятой Літургіі адслужанай на двары ў нядзелю раніцай. 450 дзяцей прыняло Сьвятое Прычасьце а пасьля Сьвятой Літургіі біскуп мірапамазаў 1.100 вернікаў.

МАНІФЭСТАЦЫІ Ў МЕНСКУ З НАГОДЫ 3 ГАДАВІНЫ ВЫБУХУ У ЧАРНОБЫЛІ!

Італьянскае прэсавае агенцтва АНСА, 27 красавіка дала наступную зацемку аб гэтым здарэньні з ссылаючыся на агенцтва ТАСС.

"Афіцыяльная маніфэстацыя і дэманстрацыя нефармалаў адбыліся ўчора ў Менску для ўспаміну 3 гадавіны выбуху ў Чарнобылі.

Пад-час першай маніфэстацыі было абвешчана, што адкрыта банкаўскі рахунак на які прамысловыя прадпрыемствы могуць рабіць ўплаты з мэтаю стварэньня фонду для загаспадараваньня земляў дакранутых радыяцыяй пасьля пажару рэактара ў Чарнобылі. Землі гэтыя station становяць пятую частку ўсёй тэрыторыі Беларусі. Пад-час маніфэстацыі ўзялі слова прадстаўнікі "Клубу маладых экалёгаў" ды экспарты радыёактыўнасьці, каторыя падкрэсьлілі, што ўзровень радыяцыі значна зьменшыўся, але таксама сказалі, што скажаная тэрыторыя будзе на працягу многіх гадоў далейшаю крыніцаю радыяцыі. Галоўным заданьнем ёсьць зьменшыць да мінімума трывалыя вынікі скажэньня. Некаторыя, што выступалі пад-час маніфэстацыі- дадае агенцтва ТАСС- жадалі больш дакладных інфармацый аб радыёактыўнай сітуацыі ў Рэспубліцы і дамагаліся, каб сельскагаспадарчая прадукцыя харчавых тавараў без якіх можна абыйсьціся была забаронена.

Вечарам таго самага дня адбылася ў Менску таксама дэманстрацыя нефармалаў. Падобныя мітынгі адбыліся таксама ў іншых гарадах і вёсках Беларусі.